# ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

09.02.12-15.02.12 г.



## ЦІ АДБУДЗЕЦЦА



АМНІСТЫЯ "ФІНТЫФЛЮФ-ТАРАЎ"

СТАР. 4–5

## ЛЮБЫЯ ГРОШЫ

ЗА ДЫПЛОМ ВНУ



СТАР. 6-7


# КАРМІЦЬ СВАЁ ВОЙСКА ЗА ЧУЖЫ КОШТ

Аляксандр Лукашэнка мае намер утрымліваць беларускія Узброеныя Сілы за кошт Расіі.

НА 18-М ГОДЗЕ "БЛІСКУЧАГА" КІРАВАННЯ ДЗЯРЖАВАЙ

Пра гэта ён распавёў пасля вяртання з Сочы, на сустрэчы з дзяржсакратаром Савета Бяспекі Леанідам Мальцавым і міністрам абароны Юрыем Жадобіным. Паводле Аляксандра Лукашэнкі, Беларусь і Расія маюць ужо практычна агульнае войска.

Гэтая заява нагадвае наступны анекдот.

*У клас заходзіць маленькі хударлявы хлопчык і пытаецца:*

*— Ну, хто на мяне?*

*Падымаецца здаровы бамбіза.*

*— Ну, я.*

*— Як цябе завуць?*

*— Вова.*

*Маленькі падыходзіць да вялікага і кажа астатнім:*

*— Ну, хто на нас з Вовам?*

> "Калі беларускае войска будзе фінансаваць Расія, то каму яно будзе насамрэч падпарадкоўвацца?"

Калі ж гаварыць сур'ёзна, то ваеннае супрацоўніцтва — гэта адзін з найбольш важкіх козыраў Лукашэнкі ў адносінах з Крамлём. Па гэтым кірунку ў бакоў практычна не бывае рознагалоссяў. Больш за тое, калі паміж Мінскам і Масквой пачыналіся спрэчкі па палітычных ці эканамічных пытаннях, то расійскія генералы прымалі бок Лукашэнкі, бо лічаць яго добрым хаўруснікам, а Беларусь — стратэгічна важнай тэрыторыяй.




*Чужая армія – нашы праблемы*

Акрамя таго, цяперашні кіраўнік краіны шмат гадоў актыўна эксплуатуе тэму нібыта існуючай пагрозы звонку. І вельмі любіць вядомую прымаўку: "Кто не хочет кормить свою армию, будет кормить чужую".

Але атрымалася так, што на 18-м годзе "бліскучага" кіравання дзяржавай сродкаў на ўласнае войска ўсё-такі не хапае. Нават з улікам вялізных субсідый, якія Расія выдаткоўвае праз танныя энерганосьбіты. Напрыклад, днямі кіраўнік "Белнафтахіма" Ігар Жылін распавёў, што Беларусь атрымлівае ад усходніх суседзяў нафту, цана за тону якой на 400 долараў меншая за сусветную. А газ для нашай краіны з 2012 года патаннеў амаль удвая.

Але ж грошай усё адно бракуе. Таму з Расіі спрабуюць дадаткова стрэсці яшчэ і на ўтрыманне беларускага войска.

— У нас ёсць дамоўленасць з прэзідэнтам Расіі, — заявіў 6 лютага Лукашэнка. — Я яму накіраваў ліст аб неабходнасці адшукаць для беларускіх вайскоўцаў дадатковыя сродкі за кошт розных кірункаў супрацоўніцтва Беларусі і Расіі. І ён абяцаў дапамагчы ў гэтым плане.

*Заканчэнне на стар. 3*

З'ЯВА

## ЕС ГАТОВЫ ДА ДЫЯЛОГУ З УЛАДАМІ БЕЛАРУСІ, АЛЕ НА ПЭЎНЫХ УМОВАХ

У Мінску прайшла сустрэча прадстаўніка Еўрасаюза з лідарамі апазіцыі і грамадзянскай супольнасці.

Як інфармуе прэс-служба аргкамітэта БХД, дырэктар дэпартамента па пытаннях Расіі, Усходняга партнёрства, Цэнтральнай Азіі, рэгіянальнага супрацоўніцтва і АБСЕ Еўрапейскай службы знешняга дзеяння ЕС Гунар Віганд заявіў, што Еўрасаюз гатовы да дыялогу з афіцыйным Мінскам. ЕС збіраецца прапанаваць «план мадэрнізацыі і фінансавай падтрымкі Беларусі», але дыялог «абумоўлены шэрагам пытанняў і будзе весціся пры пасярэдніцтве беларускай апазіцыі і грамадзянскай супольнасці».

Як паведамляе Радыё Свабода, сёння спадар Віганд меў сустрэчу ў МЗС Беларусі.



# А ВЫ ЗАРАЗ ЗА ЧЫМ СТАІЦЁ Ў ЧЭРГАХ?

**ВАЛЯНЦІНА ЧАРНЫХ, ХАТНЯЯ ГАСПАДЫНЯ:**

## “ГЭТА НЕАД’ЕМНАЯ ЧАСТКА ГАРАДСКОГА ЖЫЦЦЯ”.

— Ад чэргаў нікуды не дзецца: яны зараз усюды, дзе толькі ёсць выгада, ва ўсіх крамах, дзе ёсць хоць нейкія зніжкі. Напрыклад, каля сеткі крам “Еўраопт”. Там і цэны больш нізкія, і акцыі розныя, і карты дысконтныя. Таксама ў спецыялізаваных крамах заўсёды многа людзей. Асобна трэба сказаць пра чэргі, што ўтвараюцца ў апошнія дні аплаты камунальных паслуг. Увогуле, у банках апошнім часам стала больш чэргаў. Гэта звязана з набыццём валюты, пашырэннем банкаўскіх паслуг. Упершыню пабачыла вялікую чаргу на выдачы і замене пластыкавых картак — як быццам людзі толькі і робяць, што карткі мяняюць.

**ТАЦЦЯНА АДАМКОВІЧ, НАСТАЎНІЦА:**

## “САМЫ ЖАХ — У ПАЛІКЛІНІКАХ”.

— Самы дзікі рудымент з савецкіх часоў, які захаваўся ў нашы дні, — гэта чэргі ў паліклініках. На прыём да доктара трэба запісвацца загадзя. У некаторых выпадках гэтае “загадзя” можа скласці два месяцы і больш. Яшчэ трэба загадзя прыехаць, каб адстаяць у чарзе за талонам. І калі ён нават акажацца ў цябе ў руках, то гэта зусім не значыць, што ты трапіш да доктара ў пазначаны час: усё роўна збярэцца чарга, дзе твой талон нічога не будзе значыць, бо людзі ідуць па “вострым болі”, без талона, “нешта спытаць”. Дактары не даюць рады такой колькасці людзей. Пенсіянеры — асобная катэгорыя. На маю думку, большасць з іх ходзяць у паліклініку, як у клуб па інтарэсах. Некаторыя ходзяць у царкву, астатнія ж ідуць да доктара паскардзіцца на жыццё. Таму людзі, якія заняты працай, гатовы плаціць любыя грошы і ісці ў медыцынскія цэнтры, каб не марнаваць час у бясконцых чэргах.

**ВАСІЛЬ СУПРАНЮК, ПРАДПРЫМАЛЬНІК:**

## “МЫ ПЕРАЛІЧВАЕМ ПАПЯРОВАЕ “РЫЗЗЕ”.

— Я стаю ў чэргах па ўсё, што можна — і па піва, і па хлеб, і нават па запалкі. А чэргі ўтвараюцца не таму, што я хачу купіць так многа хлеба ці запалак, а таму, што касірцы трэба пералічыць занадта шмат паперак, для таго каб мяне абслужыць. Нават за пачак запалак цаной у 150 рублёў можна аддаць ад дзвюх да пятнаццаці купюр. Прычым выраб адной дзесяцірублёвай купюры абыходзіцца даражэй, чым пачак тых запалак. Я ўжо не кажу пра “творчасць” дзяржаўных мудрацоў, якія могуць устанавіць цану на каўбасу 87 340 рублёў. А прасцей ніяк нельга? Акругліць, напрыклад, да пяцісот? Ці яны такім чынам клапоцяцца пра нашы кішэні? Сацыяльную арыентаванасць падкрэсліваюць? І вось з-за гэтай іх “творчасці” пачынаюцца дурныя чэргі на касах, дзе людзі марнуюць час не для таго, каб нешта купіць, а для таго, каб касіркі пералічылі гэтае папяровае “рыззе”.




*Чэргі вяртаюцца надоўга*

**ВІКТАР МІКУЛЬЧЫК, БУХГАЛТАР:**

## “УЗНІКАЮЦЬ ТАМ, ДЗЕ НЕ ЧАКАЕШ”:

— Ёсць чэргі, якія ўтвараюцца абсалютна нечакана і там, дзе іх быць не павінна. Вось прыклад. Восьмая раніцы. Дарога на працу. На вуліцы амаль мінус трыццаць. У метро два банкаматы не працуюць, банкамат каля банка не працуе, і толькі ў чацвёртым банкамаце ёсць грошы і велізарная чарга. І што? Альбо спазняцца на працу, альбо не плаціць па нейкіх тэрміновых рахунках. Настрой ужо з раніцы сапсаваны…

**ІРЫНА АГЕЕВА, БАНКАЎСКАЯ СЛУЖАЧАЯ:**

## “АТРЫМАЦЬ МЕДЫЦЫНСКУЮ ДАВЕДКУ Ў ДАІ — ЯК У ПЕКЛА ПАТРАПІЦЬ”.

— Самая дурная чарга, у якой апошні раз я пабывала, — гэта чарга па медыцынскую даведку для ДАІ. Хто дадумаўся накіраваць увесь горад у паліклініку на вуліцы Філімонава, дзе няма ні пад’езда нармальнага, ні месца для паркоўкі і ідзе вечнае будаўніцтва?! Такое рашэнне, я перакананa, вынес чыноўнік, якога чымсьці пакрыўдзілі аўтамабілісты альбо ён на правы ў свой час не здаў. Гэта яго страшная вытанчаная помста ўсяму аўтамабілізаванаму мінскаму чалавецтву, бо тое, што там робіцца, — гэта піпец!

**ПЁТР КІШЭНЯ, ПЕНСІЯНЕР (ГОМЕЛЬ):**

## “НЕ ДУМАЎ, ШТО БУДУ БІЦЦА ЗА БУТЭЛЬКУ МАЛАКА”:

— Мы з жонкай і не чакалі, што зноў вернуцца малочныя, мясныя дый іншыя чэргі. Быццам бы і пенсіі цяпер не такія дрэнныя, але з цяперашнімі коштамі на ўсё, асабліва на нармальныя лекі, не пашыкуеш. Вось і прыходзіцца стаяць у чарзе за танным малаком альбо мясам. У адной такой “малочнай” чарзе за тварагом, які заканчваўся, перада мной улез такі ж пенсіянер, як і я. Я яго адштурхнуў, ён — мяне. Ну і… Сорамна дагэтуль. Але праз тыдзень я зноў стаяў у такой жа чарзе.

**АПЫТАННЕ ПРАВЕЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ.**

**ДАЖЫЛІСЯ**

## БАРАНАВІЦКІЯ ПЕНСІЯНЕРЫ ПРАПАНОЎВАЮЦЬ УВЕСЦІ ТАЛОНЫ НА ТВАРОГ

**З такой ініцыятывай выступілі жыхары аднаго з пад’ездаў дома па вуліцы Камуністычнай.**

Тварог у баранавіцкіх магазінах набыць складана. Загадчыкі магазінаў гавораць, што заказваюць яны на малочным камбінаце па 300 пачкаў тварагу ў дзень, а прывозяць… толькі 30. Людзі расхопліваюць тварог проста з латкоў, хаця цана за 200 грамаў — 4–6 тысяч рублёў, перадае “Еўрарадыё”.

Дырэктар малочнага камбіната Віктар Ракуць не можа абнадзеіць спажыўцоў: пакуль на прадпрыемстве не заменяць старое абсталяванне на новае, нічога не зменіцца. А адбудзецца гэта не раней, чым увосень.

# КАРМІЦЬ СВАЁ ВОЙСКА ЗА ЧУЖЫ КОШТ

*Заканчэнне.
Пачатак на стар. 1*

## НЕБЯСПЕЧНЫЯ ГУЛЬНІ Ў "ВАЙНУШКІ"

Шчыра кажучы, спецыфічная логіка ў такім падыходзе прысутнічае. Сучаснай Беларусі войска, па вялікім рахунку, не патрэбна, бо сур'ёзна лічыць магчымым уварванне ў нашу краіну можа толькі чалавек з псіхічным захворваннем. Атрымліваецца, што нашы ўзброеныя сілы абслугоўваюць інтарэсы Расіі, якая па-ранейшаму разглядае Захад як верагоднага праціўніка. Тады хай яна за гэта і плаціць!

Праблема палягае ў іншым. Звычайна музыку замаўляе той, хто плаціць. Калі беларускае войска будзе фінансаваць Расія, то каму яно будзе насамрэч падпарадкоўвацца?

Аднак Лукашэнку сёння турбуе не гэта. Цяпер ён цалкам сканцэнтраваўся на абароне сваёй крэпасці і ўжо спрабуе паставіць "пад ружжо" нават навукоўцаў. На цырымоніі ўручэння дыпломаў доктара навук і атэстатаў прафесара навуковым і навукова-педагагічным работнікам 7 лютага кіраўнік Беларусі "закідваў" гуманітарыям, што яны не даюць рады ў змаганні з Захадам, — няздольны прапанаваць эфектыўныя метады супрацьстаяння сучасным паліттэхнологіям, якія выкарыстоўваюць апаненты ўлад.

Усе гэтыя гульні ў "вайнушкі" надта небяспечныя. Адна бяда, што на іх марнуюцца вялікія сродкі, а другая — што беларускае кіраўніцтва замест добразычлівага супрацоўніцтва з Захадам выбірае супрацьстаянне, якое вельмі і вельмі шкодзіць развіццю нашай краіны. Тым больш што другую халодную вайну "Вова" ўсё адно прайграе. Але за гэтую паразу разам з ім давядзецца расплачвацца і Беларусі.

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

# ЦІ ПЕРАМОЖА ЭСТЭТЫКА КАМЕРЦЫЮ

**7 лютага дэлегаты ад грамадскай ініцыятывы па захаванні гістарычнага цэнтра Магілёва былі афіцыйна прыняты ў гарвыканкаме і атрымалі згоду на ўключэнне ў адмысловую экспертна-падліковую камісію сваіх чатырох прадстаўнікоў.**

Яны будуць прысутнічаць на пасяджэннях па падліку галасоў, пры разглядзе, абагульненні прапаноў і мець права голасу падчас непасрэднага абмеркавання праекта нароўні з іншымі ўдзельнікамі пасяджэнняў.

## ЦЯГНЕ ЯК МАГНІТАМ

Больш за месяц у Магілёве доўжыцца грамадскае абмеркаванне праекта прыбудовы да гандлёвага цэнтра "Магніт". Уладзе і прыватнай фірме-інвестару не ўдалося, мінуючы ўвагу грамадскасці, канчаткова зацвердзіць гэты праект і прыняць адпаведную пастанову аб яго рэалізацыі. У гэтую руцінную і звыклую, на першы погляд, справу нечакана ўмяшаліся мясцовыя актывісты ТБМ і Таварыства аховы помнікаў культуры. Ім удалося давесці гарвыканкаму, што праект у прапанаваным выглядзе парушае пэўныя артыкулы адпаведнага заканадаўства і таму патрабуе дадатковай экспертызы. Найперш замоўшчыкі і аўтары праекта не атрымалі згоду гараджан, што прадугледжана ў такіх выпадках законам.

Таму гарвыканкам крыху больш як тыдзень назад абвясціў грамадскае галасаванне "за" прыбудову альбо "супраць", паабяцаўшы ўлічыць і прыняць пад увагу кожны голас. Урны для галасавання былі ўсталяваны ў вестыбюлі гарвыканкама і ў самім "Магніце" і знаходзяцца там дагэтуль. Паколькі для праціўнікаў праекта (дакладней, для праціўнікаў парушэння пэўных артыкулаў заканадаўства, якое рэгулюе такія пытанні) вызначаныя месцы для галасавання не падаліся зручнымі і нейтральнымі, як павінна быць у такіх выпадках, актывісты грамадскай ініцыятывы — гісторыкі, мастакі, журналісты, руплііўцы роднай мовы і культуры — пачалі самастойна збіраць подпісы пад зваротам у гарвыканкам з патрабаваннем спыніць рэалізацыю недарэчнага, на іх погляд, праекта. За тыдзень подпісы пад гэтым зваротам паставілі больш як тры сотні чалавек. Збор подпісаў працягваецца, вынікі кампаніі будуць падведзены адначасова з падвядзеннем вынікаў гарадскога галасавання па дадзеным пытанні.

**ШТО ПРАПАНОЎВАЕЦЦА**

Праціўнікі прыбудовы супраць не пашырэння "Магніта" як такога. Яны будуць выказваць гарвыканкаму просьбу знайсці для новага будаўніцтва іншую пляцоўку, на ўскрайку горада, дзе патрэба ў гандлёвым доме больш відавочная і дзе будзе добраўпарадкавана тэрыторыя — для пад'езду да ГЦ з'явіцца асфальтоўка, а побач з "Магнітам -2" — паркоўка.

## З ЧАГО ЗАГАРЭЎСЯ СЫР-БОР?

У гістарычным цэнтры Магілёва ўладальнікі гандлёвага цэнтра "Магніт", у якім месціцца больш як добрая сотня буцікоў, збіраюцца выйсці за свае цяперашнія межы і прыбудаваць да існуючага цэнтра новы гандлёвы дом.

Гэтая хай-тэкаўская каробка (са шкла і металу) мусіць у такім разе паўстаць побач з помнікам культуры і архітэктуры — будынкам колішняга, за царскім часам, Пазямельнага банка, у якім зараз месціцца мастацкі музей імя Масленнікава. Шмат хто ў горадзе лічыць, што новая пабудова парушыць усе заканадаўчыя нормы дазволенай адлегласці паміж помнікамі і грамадзянскімі пабудовамі. Таксама з-за новабудоўлі будзе знішчаны сумежны сквер і зменшана тая свабодная тэрыторыя, якая цяпер выкарыстоўваецца для паркавання аўтамабіляў, а гэтая праблема ў цэнтры горада і без таго набыла надзвычай востры характар.




Нагадаем, што арэндная плата за карыстанне тут офісамі, памяшканнямі, тэрыторыяй нашмат большая, чым у любым іншым месцы горада. Магчыма, тут і хаваецца той запаветны ключык да "магнітнага ларчыка".

## НА ЧЫМ СТАЯЦЬ АКТЫВІСТЫ СУПРАЦІВУ

**Вось як каментуе гэтую сітуацыю гісторык Алег Дзьячкоў:**

— Радуе, што распаўсюджаную намі заяву ўжо падпісалі многа людзей. Мы занясём найбліжэйшымі днямі гэтыя лісты з подпісамі ў прыёмную гарвыканкама, да старшыні Станіслава Барадаўкі. Мы задаволены ўключэннем нашых прадстаўнікоў у гарадскую камісію па гэтай праблеме. Будзем дамагацца, як у такіх выпадках і патрабуе закон, арганізацыі сапраўдных грамадскіх слуханняў, дзе дадуць слова гісторыкам, юрыстам і спецыялістам, як мясцовым, так і экспертам з міністэрстваў культуры, будаўніцтва і архітэктуры.

Падтрымлівае актывістаў супраціўнай кампаніі і магілёўскі мастак **Базыль Камароў**:

— Абсалютна недарэчная ідэя — будаваць на месцы, дзе гістарычна ўтварыліся зусім іншыя дамінантныя пункты, адзін з якіх — найпрыгажэйшы старадаўні будынак Пазямельнага банка, невыразную, але грамадскую і занадта вялікую для гэтага месца будыніну, якая ўсё закрые сабой і парушыць гармонію.

**ВІКТАР ВОЙТ**

# ЦІ АДБУДЗЕЦЦА АМНІСТЫЯ "ФІНТЫФЛЮФТАРАЎ"

**Нядаўна старшыня Вышэйшага Гаспадарчага Суда Віктар Камянкоў заявіў пра магчымасць правядзення амністыі капіталу.**

Паводле яго слоў, неўзабаве адпаведныя прапановы будуць унесены на разгляд кіраўніка дзяржавы і ўрада.

Аб эканамічнай амністыі прыгожа і на розны лад гавораць ужо не першы год, у тым ліку і на самым высокім узроўні. Але чаму далей за размовы справа не ідзе? У гэтым пытанні пры дапамозе экспертаў разбіралася **"Тут і цяпер"**.

## СПАЧАТКУ АМНІСТУЮЦЬ, А ПОТЫМ УСЁ РОЎНА ПАСАДЗЯЦЬ?

Былы генеральны дырэктар канцэрна "Амкадор" прамысловец **Васіль Шлындзікаў** лічыць, што і пасля эканамічнай амністыі мільянеры ўсё роўна не будуць застрахаваны ад крымінальных спраў.

— Думаю, нават калі і аб'яваць амністыю капіталу, то гэта наўрад ці прынясе карысць, — дзеліцца сваімі меркаваннямі Васіль Міхайлавіч. —Напрыклад, легалізуе чалавек свае капіталы, але застанецца высокая верагоднасць таго што праз некаторы час да яго прыйдуць з кайданкамі, і нават няважна з якой нагоды. Што зробіш, калі ў нас такая сумная практыка... Думаю, што тыя людзі, якія сёння валодаюць капіталамі, выдатна гэта разумеюць.

Па вялікім рахунку, трэба не амністыі ладзіць, а мяняць эканамічнае асяроддзе. Варта адсунуць дзяржаву ад бізнесу. А калі дзяржава татальна кантралюе бізнес, то, на мой погляд, ніякая амністыя не дапаможа. І яшчэ: не забывайце, што капіталы ёсць толькі ў тых, хто блізкі да двара, а астатнім, па вялікім рахунку, няма чаго амніставаць.



*З капіталам пакуль абыходзяцца па-пралетарску*

## А ЗАІКА СУПРАЦЬ!

"Сумленным людзям амністыя не патрэбна", — так лічыць вядомы беларускі **эканаміст кандыдат навук Леанід Заіка**.

> Мы знаходзімся ў прадчуванні і ў першай фазе падрыхтоўкі наменклатурнай прыватызацыі

— Палкоўнікі КДБ кажуць, што амністыя капіталу ні ў Лацінскай Амерыцы, ні ў суседніх краінах таноўчага эфекту не мела, — выказвае сваё стаўленне да праблемы прафесар. — Мы гэтую тэму неаднаразова абмяркоўвалі на канферэнцыях, што праводзіў аналітычны цэнтр «Стратэгія», прыслухоўваліся да меркавання розных бакоў, уключаючы прадстаўнікоў міжнародных сілавых структур, фінансавых разведак і інш. Пытанне досыць далікатнае...

Першыя капіталы, якія зарабляюцца на тэрыторыі постсавецкай прасторы, нажыты "злачынным шляхам" (цытую Бендэра), бо немагчыма на этапе першапачатковага назапашвання капіталу зарабіць сур'ёзныя грошы, хіба што атрымаць Нобелеўскую прэмію або вынайсці перпетуум мобіле.

Чаму ў Беларусі раз-пораз гучаць размовы аб амністыі капіталу?

Мы знаходзімся ў прадчуванні і ў першай фазе падрыхтоўкі наменклатурнай прыватызацыі: як толькі мясцовая наменклатура пачынае падбірацца да грамадскай уласнасці, то адразу пачынаюцца размовы аб амністыі капіталу. У Беларусі прыватызацыя ідзе паводле трэцяга тома «Капіталу» Маркса, а Лукашэнка і яго карныя органы чакаюць, што яна пойдзе паводле першага тома — у гэтым іх памылка. Калі намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Андрэй Тур, які з'яўляецца палітэканомам, растлумачыць сваім кіраўнікам адрозненне паміж першым і трэцім тамамі, тады яны нешта зразумеюць. У першым томе «Капіталу» сказана, што асноўныя сродкі — гэта сталыя і зменныя капіталы; прыватызацыя — гэта прысваенне пастаяннага капіталу. Згодна з трэцім томам, капітал класіфікуецца як асноўны і абаротны. І вось абаротны капітал — грошы прадпрыемстваў, якія ўжо даўно прыватызаваны праз розныя падстаўныя кампаніі, фінансавыя здзелкі і гэтак далей. Абаротныя сродкі прадпрыемстваў наменклатура перанакіравала па сваіх каналах.

Напрыклад, я чытаю, што нейкі намеснік дырэктара з невялікага горада жыве ў пяціпавярховым панэльным доме і мае рахункі ў Швейцарыі. Вось яна дзе — прыватызацыя! Наменклатура хацела б увайсці ў прыватызацыю з чыстай рэпутацыяй. Што тычыцца дробнага і сярэдняга капіталу, прадпрымальнікаў, то які ў іх там капітал?! Няма чаго амніставаць. Купяць сабе ў лепшым выпадку па «Лексусе», пабудуюць катэдж і сядзяць, дрыжаць, пакуль гэта не адабралі...

**ЧУЖЫ ДОСВЕД**

## ЭКАНАМІЧНАЯ АМНІСТЫЯ МОЖА МЕЦЬ АДЧУВАЛЬНЫ ПОСПЕХ

*«Прыклад Казахстана паказаў, што яна можа быць эфектыўнай»*, — заўважыў **старшыня ВГС Камянкоў**. У Казахстане ў 2001 годзе ў выніку эканамічнай амністыі на працягу аднаго месяца было легалізавана каля паўмільярда долараў. Хоць гэтыя сродкі з'яўляюцца прыватнымі і дзяржава не атрымала з іх у выглядзе падатку ні аднаго тэнге, карысць відавочная. Размешчаны ў банкаўскім сектары капітал цяпер працуе на карысць дзяржавы і грамадства, а значны прыток замежнай валюты паспрыяў умацаванню нацыянальнай валюты Казахстана.



*А нацыяльным будуць ганарыцца адназначна*

У 2007 годзе старшыня праўлення ААТ "Прыёрбанк" **Сяргей Касцючэнка** прапанаваў ураду Беларусі прыняць меры па прыцягненні сродкаў беларускіх доларавых мільянераў у мясцовыя банкі. "У Беларусі не менш за 7–10 тысяч доларавых мільянераў. Задача дзяржавы — падумаць, якім чынам прыцягнуць гэтыя сродкі на банкаўскія рахункі", — сказаў банкір.

«Ну вось паглядзіце: пабудаваў намеснік старшыні аднаго выканкама 4 катэджы, — малюе партрэт шараговага беларускага мільянера Леанід Заіка. — Я міма аднаго з яго дамоў праязджаю — у Валяр'янах. Рынкавы кошт кожнага катэджа складае прыкладна 200—300 тысяч долараў, а ён усяго толькі намеснік старшыні выканкама. Памножым гэтыя 300 тысяч на 4 катэджы — вось вам і мільянер! Вядома, гэта наменклатура, дырэктары...

У мяне ёсць знаёмы банкір, які пабудаваў тры кватэры і здае іх у арэнду. І калі б грошы ад гэтых кватэр змясціць у нейкі літоўскі банк, то гэта было б 1,5–2 млн долараў. І гэтыя людзі ходзяць побач з намі... Я іх называю фінтыфлюфтарамі. Фінт — гэта "падманулі", "зрабілі фінт", "скралі грошыкі", а потым флюфт — "пабеглі"! Фінтыфлюфтары — можаце так і напісаць: Заіка супраць амністыі фінтыфлюфтараў...".

## А МО АДКРЫЕМ БАНК?

Былы прэм'ер-міністр Беларусі **Міхаіл Чыгір** у свой час прапаноўваў стварыць у Беларусі афшорны банк. «Азалаціліся б і гора не ведалі!" — кажа ён.

— Я толькі за амністыю капіталу, — гаворыць Міхаіл Мікалаевіч. — Калі аб'явім нармальную амністыю, папросім заплаціць нейкі мінімальны падатак у бюджэт, то ўжо будзе добра. Памятаеце, што з нафтай у свой час рабілася? Людзі "падымаліся" на шалёныя грошы! Вось няхай цяпер выплацяць падаткі, мы атрымаем грошы ў бюджэт. Галоўнае, каб гэты падатак быў прымальным. Трэба, каб грошы працавалі тут, навошта іх уладальнікі сёння разрываюцца паміж Кіпрам і Вашынгтонам? Але мы толькі гаворым на гэтую тэму, а рабіць штонебудзь так і не спяшаемся. Я ў свой час прапаноўваў стварыць афшорны банк — гэта былі б такія грошы! Ад іх з глузду можна было б з'ехаць… А так мы ўсё драпаем гэтыя капейкі, шукаем іх па ўсім свеце...

"У Беларусі не менш за 7–10 тысяч доларавых мільянераў.

Таму я так думаю: хайценявыя мільянеры выплацяць мінімальны падатак — магчыма, нават і 12 працэнтаў, але ніякіх санкцый да тых, хто легалізаваў свае капіталы, не будзе. Заплаціў падатак — і спі спакойна.

**МАРЫНА МІТ**

# БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫЯ НАЛЕПКІ ВЫКЛІКАЮЦЬ ШАЛЕНСТВА

**У Брэсце, імаверна, сексотаў прымушалі фатаграфаваць машыны са сцяжкамі, паведамляе радыё Свабода.**



Новы доказ таму: у Брэсце аўтааматараў, якія размяшчаюць на кузаве свайго аўтамабіля налепкі з «Пагоняй» і бел-чырвона-белым сцягам, выклікаюць у дзяржаўтаінспекцыю.

Пра гэта паведаміў радыё «Свабода» **Віктар Клімус**, які таксама мусіў наведаць абласную ДАІ.

*«Мяне таксама выклікалі,* — кажа ён. — *Як я зразумеў з размовы з супрацоўнікамі ДАІ, выклікаюць людзей з 3 лютага. Ужо выклікалі больш за 10 чалавек. Я сустрэў знаёмага, які ездзіць таксама з налепкай "Пагоні" і бел-чырвона-белым сцягам. Яму пагражалі артыкулам аб навешванні налепак на кузаў аўтамабіля».*

Згодна з артыкулам 194.13 Правілаў дарожнага руху, забараняецца ўдзел у дарожным руху транспартнага сродку са знешне бачнымі налепкамі. Пад гэты артыкул не падпадаюць налепкі з рэкламай або інфармацыяй аб прыналежнасці аўтамабіля арганізацыі ці прадпрымальніку. Віктар Клімус кажа, што менавіта гэтым артыкулам пагражалі яму супрацоўнікі ДАІ.

*«Але на мяне пратакол не склалі, бо ў мяне "Пагоня" была на магніце, і перад прыездам у ДАІ я зняў яе. Здымаў яе на час дагляду, а потым павесіў на месца. Я не збіраюся здымаць яе назаўсёды. Павесіў назад, як толькі выехаў за вароты дзяржаўтаінспекцыі»,* — распавёў берасцеец. — *Лічу, што трэба надаць розгалас гэтай справе, бо відавочна, што справа палітычная. Тут ёсць нейкая замова, бо я бачыў, што ў іх спісе каля 30 чалавек. Самі міліцыянты не ўтойвалі, што працуюць ужо з 3 лютага. Зараз перабіраюць астатніх са спіса. Гэты спіс у іх ляжыць на стале, яны нават не ўтойваюць, што прыйшла інфармацыя».*

Берасцеец Анатоль Ярмак пацвердзіў інфармацыю, агучаную Віктарам Клімусам.

Ён распавёў карэспандэнту «Свабоды», што яго таксама выклікалі ў ДАІ для дагляду аўтамабіля. Але, не знайшоўшы налепак на яго аўто, даішнік паказаў Анатолю фотаздымкі іншых аўтамабіляў з нацыянальнай сімволікай.

Сабраць іх сама ДАІ не мела тэхнічных магчымасцей. Пры гэтым, як распавёў спадар Ярмак, налепка, якая не мае дачынення да нацыянальных сімвалаў, супрацоўнікаў ДАІ не зацікавіла.

У рэальнасці на многіх аўтамабілях ва ўсім свеце ёсць розныя сур'ёзныя або жартаўлівыя налепкі, і раней гэта нікога не турбавала, бо нікому не шкодзіць. Значыць, лукашэнкаўцы разглядаюць рост нацыянальнай свядомасці беларусаў як пагрозу сабе. А бел-чырвона-белыя налепкі і «Пагоня» — гэта ж перадусім напамін пра нашу нацыянальную культуру, пра тое, хто мы і ў што мы верым.

Нацыянальныя налепкі шмат дзе прадаюцца. Шмат хто вырабляе іх і сам — існуюць крамкі, што раздрукоўваюць кліентам любую наклейку з прынесенай імі карцінкі.

Цікава, што ў канцы 2010 года ў Берасці актывісты апазіцыі абляпілі бел-чырвона-белымі налепкамі грамадскі транспарт. Гэта было перад выбарамі, калі лукашэнкаўцы ўстрымліваліся ад арыштаў.

# ВЫПУСКНІКІ ВНУ АДДАДУЦЬ ЗА ДЫПЛОМ ЛЮБЫЯ ГРОШЫ

**Пакуль ВНУ Беларусі з 1 лютага рыхтуюцца да чарговага (трэцяга за бягучы навучальны год) павышэння тарыфаў на веды, якое можа узняць аплату адразу да 29 %, у Інстытуце прадпрымальніцкай дзейнасці студэнтам-выпускнікам яшчэ ў снежні (!!!) абвясцілі, што павышаюць апошні ўзнёсак за вучобу на 100 %, расказала “Тут і цяпер” навучэнка гэтай ВНУ Паліна, якая па вядомых прычынах не хоча называць сваё прозвішча.**

Студэнты гэтай установы плацяць, як і ва ўсіх прыватных ВНУ, чатыры разы на год. Да 1 верасня, у кастрычніку, студзені і красавіку. У пачатку гэтага навучальнага года яны плацілі 780 тысяч, пасля першага падаражання — ужо 1 200 000, а літаральна ў снежні ім абвясцілі, што трэці ўзнос за вучобу (студзеньскі) складае ўжо 1 400 000. Акрамя таго, да застаўшагася красавіковага плацяжа ў 1 400 000 дадаецца яшчэ адзін такога ж памеру, у сакавіку.

— У дэканаце нам патлумачылі, што разбілі плацёж на два вясновыя месяцы, каб нам не прыйшлося плаціць адразу такую вялікую суму ў красавіку, — расказала Паліна. — Самае крыўднае, што такое павышэнне на 100 % ніхто нічым не тлумачыць. Нам проста прыносяць прыказ аб павышэнні, які трэба падпісаць. Між іншым, у нас зараз практыка, і мы не ходзім на вучобу. На нас не расходуецца ні святло, ні вада, і выкладчыкі з намі не працуюць, за што такое павышэнне, невядома.



*Вучыцца ў сацыяльна арыентаванай дзяржаве ўсё цяжэй*

— Павышаць аплату за навучанне — гэта дрэнна і непрыгожа, але ВНУ мае на гэта права. А калі пералічыць беларускія рублі на даляры па сёнешняму курсу, то ў параўнанні з двума гадамі раней, калі плата за навучанне дасягала $ 2 000 за год, зараз кошт да гэтай лічбы нават і не дацягвае. На жаль, сёння існуе такая палітыка — абіраць народ, і гэтым займаюцца ў тым ліку і навучальныя установы, — пракаменціраваў Анатоль Паўлаў, экс-прарэктар БДУ.

— Студэнты першых курсаў навучання больш плацяць за вучобу для таго, каб не аплачваць перыяд практыкі. У нас усё раўнамерна размеркавана па гадах, і павелічэнне кошту склала ў сярэднім 20%. Не параўноўвайце этапы плацяжоў. Устаноўлены кошт навучання на год, і падаражанне адбываецца адносна гэтага кошту, а не этапнасці плацяжоў, — патлумачыла павышэнне тарыфаў галоўны бухгалтар ВНУ Таццяна Канстанціновіч. — Калі, напрыклад, з 1 кастрычніка кошт павялічыўся, а наступны плацёж павінен быць у студзені, то вам можа падацца, што сума павялічылася і на 200%. А на самай справе проста надыходзіць чарга плацяжу, і сюды ўкладваецца дабор за лістапад, снежань і студзень. Трэба параўноўваць гадавы кошт навучання — якім ён быў спачатку, і як далей мяняўся: з 1 студзеня ў нас на дзённай форме навучання за год трэба плаціць прыкладна 5 833 000, а папярэдні кошт за год быў 4 746 000.

Дарэчы, на 99% можна гарантаваць, што павышаць аплату ў снежні адміністрацыя ВНУ не плануе, калі толькі не здарацца форс-мажорныя абставіны.

## ПАСТУПАЎ НА РЭКЛАМШЧЫКА, ВЫПУСКАЮСЯ МАРКЕТОЛАГАМ

Такое своеасаблівае стаўленне інстытут праяўляе не толькі да сваіх выпускнікоў, але і да першакурснікаў. Як расказалі студэнты, у адзін з гадоў абітурыенты, што паступалі на спецыяльнасць “рэкламная дзейнасць”, вымушаны былі вучыцца ў групе, што здавала іспыты на кафедру “міжнародны маркетынг”. На пратэст першакурснікаў, што гэта дзве розныя дысцыпліны, ім паабяцалі падзяліць групу на трэцім курсе адпаведна кафедрам. Студэнты урэшце проста забыліся пра гэта, а калі пасля трэцяга курса схамянуліся, іх жа і абвінавацілі, што яны не нагадалі кіраўніцтву пра яго абяцанне. У выніку уся група выпускаецца па спецыяльнасці “міжнародны маркетынг”.

Але і ў апошні год інстытут прыдумаў студэнтам арыгінальныя правілы. Адну з выпускных груп падзялілі на тых, хто піша дыплом і здае адзін дзяржаўны іспыт (некалькі чалавек з самымі высокімі баламі), і тых, хто здае два іспыты і не піша дыплом. У другой групе ўвогуле ніводзін чалавек дыплом не піша.

Дарэчы, у выпускнікоў дагэтуль няма не тое што білетаў з пытаннямі, яны нават не ведаюць, якім будзе другі іспыт, і колькі дысцыплін у яго ўвойдзе. Мяркуецца, што інфармацыя пра гэта з’явіцца толькі пасля практыкі, калі будуць лекцыі па падрыхтоўцы да дзяржаўных іспытаў. І вось за гэты месяц студэнтам трэба будзе ўзгадаць усю вучэбную праграму.

**ДАРЭЧЫ**

**Як правіла, выпускнікі плоцяць за апошні курс менш, чым папярэднія гады. Напрыклад, у Прыватным інстытуце кіравання і прадпрымальніцтва з 1 студзеня 2012 года расцэнкі для 1-4 курсаў дзённай формы навучання 4 934 000 за год, а для выпускнікоў — 4 мільёны. “Журналістыка” у Інстытуце парламентарызма і прадпрымальніцтва каштуе з 2-га па 4-ты курсы 4 350 000 у год, на 5-м — 3 640 000. Дарэчы, яна ж і самая дарагая спецыяльнасць — за астатнія ў гэтай ВНУ з 2-га па 4-ты курсы бяруць па 4 023 000.**

**Дарэчы, расцэнкі на плату за навучанне размешчаны далёка не на ўсіх сайтах прыватных ВНУ, а абгрунтаванне павышэння кошту за вучобу ўвогуле вывесіў толькі адзіны Мінскі інстытут кіравання.**

## НА ПРАКТЫКУ — НА “ВАЛАСАТАЙ РУЦЭ”

Праблема склалася ў выпускнікоў і з перараддыпломнай практыкай. Яшчэ ў верасні інстытут загадаў студэнтам да 1 лістапада прадаставіць з прадпрыемстваў, на якія выпускнікі сабраліся на практыку, гарантыйныя лісты.

— Месцы ўладкавання на практыку мы павінны былі знайсці самі. А як гэта зрабіць? Заходзіць ва ўсе дзверы і спадзявацца, што цябе прымуць? — абуралася Паліна. — Потым высветлілася, што ёсць спісы для тых, хто не змог сам знайсці месца на практыку. Цікава, што кіраўніцтва інстытута не казала ні куды мы пойдзем на практыку, ні пра гарантыйныя лісты, аж но да канца снежня. У выніку толькі адзін чалавек са спіса пайшоў на практыку ад ВНУ — астатнія ўсё ж знайшлі месцы самі, і гарантыйныя лісты прынеслі ў студзені. І кіраўніцтва ўжо не нагадвала, што іх трэба было прынесці да 1 лістпада, як кроў з носу.

23 студзеня, у першы дзень практыкі, з'явіліся новыя сюрпрызы — дзяржаўныя прадпрыемствы запатрабавалі аплату сваім кіраўнікам за праходжанне студэнтамі практыкі. Дарэчы, тарыф на дзяржпрадпрыемствах складае ў сярэднім 200 000 у месяц. Тэрмін практыкі — да сярэдзіны красавіка.

— Грошы, можа, і не такія вялікія, але сплочваць іх са сваёй кішэні, не хочацца, бо наша кіраўніцтва намякнула, ці не зможам мы самі заплаціць іх прадпрыемству. У выніку многія змянілі месца — папрасілася па знаёмству і без грошай у іншую установу, — дадала Паліна. — Атрымоўваецца, што зараз “падвязкі” і “валасатыя рукі” патрэбны ўжо нават не толькі каб на працу ўладкавацца, але нават і на перараддыпломную практыку. Хаця са звычайнымі практыкамі такіх цяжкасцей не ўзнікала.

— У савецкія часы не было ніякіх праблем з уладкаваннем студэнтаў на практыку, і ніхто не браў за гэта грошай. Але яшчэ ў тыя часы, калі я працаваў, ужо з'явілася такая тэндэнцыя, і гэта сталася вялікай праблемай нават для навучэнцаў дзяржаўных ВНУ, а што ж казаць пра прыватныя. Фактычна, прадпрыемства прадастаўляе паслугу, каклі прымае студэнта на практыку, яно траціць на яго свой час, і бярэ за гэта грошы, так што ў межах закона ўсё правільна, і нічога тут не зробіш, — распавёў Анатоль Паўлаў.

— Дзяржаўныя прадпрыемствы, на маю думку, проста зажырэлі, калі патрабуюць грошы са студэнтаў, — выказалася Таццяна, супрацоўніца недзяржаўнай фірмы. — Прыватныя ўстановы наадварот радуюцца, што могуць атрымаць супрацоўніка “на халяву” на тры месяцы, які будзе працаваць і не патрабаваць зарплаты.

Між іншым, думаецца, што ў апошні год навучання студэнт аддасць апошняе, абы атрымаць дыплом.

**ІРЫНА СІНІЦА**

# РОДНАЯ МОВА ДЛЯ “КУЛЬТУРНАЙ СТАЛІЦЫ”

Рашэнне аб скарачэнні шэрагу спецыяльнасцей у ВНУ краіны, асабліва ў тых, дзе рыхтуюць адмыслоўцаў у галіне беларускай мовы, закранула не толькі сталічныя навучальныя ўстановы, але і Магілёўскі ўніверсітэт імя Аркадзя Куляшова.




*Не ўсе разумеюць, што мова – практычна гэта наша ўсё*

## БЕЛАРУСКІ ФІЛОЛАГ АЛЬБО РАСІЙСКІ ГАСТАРБАЙТАР

Будучы выпускнік адной з магілёўскіх сярэдніх школ **Дзяніс Бародзіч**, даведаўшыся пра гэтую інфармацыю, разгубіўся, бо хацеў стаць якраз беларускім філолагам у "куляшоўскім" універсітэце.

— *Цяпер не ведаю, куды падацца,* — кажа хлопец. — *Рыхтаваўся ў наш універсітэт на беларускую філалогію. Бацькі і сябры былі гэтым выбарам задаволены, бо нікуды не прыйшлося б ехаць. Цяпер, магчыма, з кімсьці з сяброў пададзімся ў Расію на заробкі, як зрабілі летась некаторыя з маіх старэйшых сяброў. А можа буду там вывучаць ужо рускую мову*.

Яшчэ адзін чалавек у горадзе, які відавочна расстроіўся, дазнаўшыся пра сумную моўную ўніверсітэцкую перспектыву, — **Міхась Булавацкі**. Выкладчык матэматыкі на беларускай мове ў тым жа ўніверсітэце ў 90-я гады працягвае свае асабістыя высілкі ў моўным напрамку:

— Сёлета быў паказаны самы слабы вынік у веданні мовы — у сярэднім адна памылка на 10 слоў. Напрыклад, пяць гадоў назад была адна памылка на 30 слоў... Мовы вучням у школах відавочна не хапае. Амаль усе ўдзельнікі майго сёлетняга "пяціборства" былі з рускамоўных школ. Матэматыку і фізіку па-беларуску ім не выкладаюць. Вучні не ведаюць беларускіх тэрмінаў. Яны займаюцца своеасаблівай слаdensтворчасцю — прыдумляюць словы па сваім меркаванні. Напрыклад, ёсць такое рускае слова "касательная". Па-беларуску яно гучыць як "датычная". А дзеці пачынаюць выдумляць свае: "кранацельная", "датыкальная", "зачэпная"... У мяне назбіралася дванаццаць варыянтаў такой "творчасці". Наяўнасць беларускамоўных факультэтаў з паглыбленым яе вывучэннем на аддзяленні журналістыкі прымусіла б гэтых маладых людзей старанна рыхтавацца да паступлення. Цяпер такога інтарэсу, імкнення ў іх не будзе. Дык адкуль жа возьмуцца беларускія журналісты, беларускія выкладчыкі, беларускія навукоўцы пры такой вось дзяржаўнай палітыцы ў галіне адукацыі?! А потым улада будзе апраўдвацца тым, "што, маўляў, самі бачыце — няма жадаючых...". Сведчу, што гэта не так.

## АЛЬТЭРНАТЫЎНЫ ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

**Выкладчыца беларускай мовы мінскага педагагічнага ўніверсітэта імя М.Танка 36-гадовая Таццяна:**

— А спецыяльнасці ў асобных ВНУ, асабліва звязаныя з беларускай мовай, закрываюць таму, што яны не запатрабаваны. Не набіраецца патрэбная колькасць студэнтаў, ну хоць ты трэсні! Чалавек 5-7 ад сілы, і тое ў большасці тыя, хто набраў занадта нізкія балы па выніках тэсціравання. Але ж ідуць у пед, бо там адназначна прымаюць па прычыне недабору на некаторыя спецыяльнасці. І атрымліваем мы потым нярэдка непісьменных настаўнікаў ці, прабачце, журналістаў.

## НЯРОДНАЯ МОВА

У любым выпадку, стаўленне да беларускай мовы ў Магілёве, трэба прызнаць, мае збольшага фармальны характар.

Усяго толькі два гады назад старшыня Магілёўскага аблвыканкама, а цяпер генерал-губернатар Пётр Руднік ганарыўся тым, што ў рэгіёне быў абвешчаны Год роднай мовы, і абяцаў дамагчыся развіцця і замацавання матчынага слова ў шырокім ужытку, пачынаючы з аблвыканкамаўскіх дакументаў і заканчваючы павелічэннем колькасці класаў з беларускамоўным навучаннем у школах.

Аднак, нічога ўдалага з гэтай задумкі не атрымалася. Нават пры ўездзе ў горад з боку мінскай трасы стаіць рускамоўны паказальнік "МОГИЛЁВ". На скаргу на гэты конт з боку гарадскіх актывістаў гарвыканкам адказаў, што ніякія рэгламенты не парушаны, бо "ў нас дзве афіцыйныя мовы".

**ВІКТАР ВОЙТ**

**ДА ВЕДАМА**

**У 2013 годзе Магілёў павінен стаць "Культурнай сталіцай Беларусі і СНД". Такое рашэнне прыняла Міністэрства адукацыі краіны.**

# ЖАННА ЛІТВІНА: “ЖУРНАЛІСТЫКА ЯК ПРАФЕСІЯ ЦАЛКАМ СЫШЛА З БТ”

Так старшыня ГА «БАЖ» пракаментавала змест дакументальнага фільма «Баш на БАЖ», што дэманстраваўся 5 лютага ўвечары па першым канале БТ. Фільм выйшаў у эфір пасля праграмы «В центре внимания» і шмат разоў перад гэтым анансаваўся ў эфіры БТ як «журналісцкае расследаванне».




*«Вядома, што Беларускае тэлебачанне не грэбуе цкаваннем і дыскрэдытацыяй апанентаў улады. На гэты раз аб’ектам стала незалежная журналісцкая супольнасць. Зразумела адно - журналістыка як прафесія цалкам сышла з БТ»*,- лічыць **Жанна Літвіна**.

Асновай «журналісцкага расследавання» стаў ананімны ліст сябра БАЖ, падпісаны «сябрам Беларусі». У лісце гаварылася, што «ў кіраўніцтва арганізацыі адна мэта – прага нажывы і асабістае абагачэнне», і што ён «больш маўчаць не можа» і просіць «раскалупаць гэтае залатое асінае гняздо».

Ананім спасылаецца на «сакрэтныя дакументы брытанскай амбасады», якія ён выклаў у інтэрнэце. З іх вынікае, што БАЖ нібыта атрымаў сродкі на праект «садзеяння паляпшэнню заканадаўства аб СМІ ў Беларусі». Фільм пачаўся і скончыўся расповедам пра маленькіх пацыентаў Рэспубліканскага цэнтру дзіцячай анкалогіі, якіх можа выратаваць толькі перасадка органаў, што каштуе вялікіх грошай. Відэашэраг фільма быў «аздоблены» кадрамі са схаванай камеры, на якіх бачны працэс сачэння за сябрамі БАЖ.

*«Форма і змест пабачанага пакідаюць шмат пытанняў адносна як мэтавай аудыторыі прадукту, так і сродкаў, пры дапамозе якіх ён будаваўся»*, - кажа Ж. Літвіна.

Старшыня БАЖ нагадала, што арганізацыя з’яўляецца добраахвотным, недзяржаўным, непартыйным аб’яднаннем грамадзян, якія займаюцца прафесійнай журналісцкай дзейнасцю. «Колькі існуе БАЖ, столькі яго дзейнасць скіраваная на абарону правоў журналістаў і распаўсюд стандартаў журналісцкай дзейнасці. Паглядзеўшы ўчорашні твор па БТ, я разумею, што людзей, якіх працуюць на БТ, трэба вучыць прафесіі пачынаючы з самых асноваў...»

«Непаразуменні і раскол, якія праяўляюцца сёння ў журналісцкай супольнасці краіны, на жаль, цяпер яшчэ больш абвастрацца. Такога кшталту абразы не наблізяць нас да паразумення і супрацоўніцтва і не паспрыяюць удасканаленню нашай прафесіі», - дадала Жанна Літвіна.

Паводле старшыні ГА «БАЖ», зараз юрысты арганізацыі абмяркоўваюць магчымасць звароту ў суд з зыскам да Першага канала БТ – за знявагу гонару, годнасці і дзелавой рэпутацыі арганізацыі.

**P.S.:** У здымачную групу, што працавала над «расследаваннем», уваходзілі: Вольга Шуманская, Святлана Рэва, Алена Панцюкова, Вольга Гурбо, Максім Кураш, Дзмітрый Чумак, Анатоль Далатоўскі, Юрый Сахадзэ, Віктар Шпак, Мікалай Рузавін, Аляксандр Шастаковіч, Андрэй Хрысцін, Аляксей Карнюшчэнка, Мікалай Лашкевіч, Аляксандр Петравецкі, Аляксандр Гарбачоў, Нэлла Зубовіч, Наталля Трусава, Вольга Ермакова. Кіраўнік праекта – Марат Маркаў.

**ПРЭС-СЛУЖБА ГА «БЕЛАРУСКАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ ЖУРНАЛІСТАЎ»**



**Заснавальнік** ТАА “Тут і цяпер” **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактор** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 22:45 09.02.12
Тыраж 299 экзэмпляраў